# Тыднёвік Магілёўскі

№ 12 (153) 22 — 28 сакавіка 2002 г. Кошт 100 руб.


## STOP

## Скажам "НЕ" перасьледу журналістаў



*Міколу Маркевічу і Паўлу Мажэйку, журналістам зачыненай гарадзенскай "Пагоні", інкрымінуюць абразу прэзідэнта. Рэпарцёрам пагражае да 5 гадоў турмы.*



"НЕ" "НЕ"

## Словы і справы не павінны разыходзіцца

***У краіне працягваецца адміністратыўны і судовы перасьлед сябраў палітычных партыяў, актывістаў грамадзкіх арганізацыяў, журналістаў недзяржаўных СМІ і грамадзянаў, якія прымалі актыўны ўдзел у прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі ў верасьні 2001 году.***

***Дзеючая ўлада ў адносінах з сваімі палітычнымі і ідэалягічнымі апанэнтамі перайшла да крымінальных рэпрэсіяў. Апошнім часам гэта закранула й журналістаў: узбуджаныя крымінальныя справы супраць газэтаў "Наша свабода" і "Рабочы". Галоўны рэдактар гарадзенскай "Пагоні" М.Маркевіч і карэспандэнт гэтай газэты П.Мажэйка абвінавачваюцца ў "абразе прэзыдэнта". Ім пагражае тэрмін зьняволеньня да 5-ці год.***

***Кансультацыйная рада лічыць, што крымінальная справа супраць журналістаў ёсьць актам палітычнай расправы над тымі, хто думае інакш, чым гэта падабаецца ўладзе. На газэце "Пагоня" празь яе закрыцьцё, што было зьдзейсьненае Гаспадарчым судом РБ, выпрацоўваецца мадэль зьнішчэньня незалежных СМІ – адзінай даступнай трыбуны ў краіне для грамадзкай думкі. Такія дзеяньні ўлады сьведчаць аб палітыцы "падвойных стандартаў", калі на словах яна дэкляруе адно, а робіць – зусім іншае.***

***Кансультацыйная рада патрабуе ад уладаў краіны неадкладнага спыненьня крымінальных справаў супраць журналістаў недзяржаўных выданьняў.***

***Кансультацыйная рада зьвяртаецца да міжнароднай супольнасьці з прапановай ацэньваць дэклярацыі беларускага кіраўніцтва аб ягонай гатовасьці да дэмакратычных пераўтварэньняў выключна па канкрэтных справах і, у першую чаргу, па рэальным забесьпячэньні ў краіне свабоды слова і выказваньня думак.***

***Паводле Заявы Кансультацыйнай рады апазыцыйных палітычных партыяў***

**СУД У ШКЛОВЕ**

## Пацярпелы для выроку не спатрэбіўся

***14 сакавіка, якраз напярэдадні Дня Канстытуцыі РБ, завяршыўся першы ў гісторыі Беларусі суд па 368-му артыкулу часткі 1-ай КК Рэспублікі Беларусь – "Абраза гонару і годнасьці прэзыдэнта РБ".***

Апошняе паседжаньне, загадзя абвешчанае як выніковае і ледзь не фармальнае, доўжылася ня менш, чым папярэднія. Адвакат пяці падсудных хлопцаў сп.Сапелка, якому суд адмовіў у правядзеньні мастацкай экспэртызы наконт вызначэньня самога паняцьця "маска" і адпаведнай ацэнкі з гэтай пазыцыі шклоўскага *"вещественного доказательства"*, запрасіў на паседжаньне, як і абяцаў, мастацтвазнаўцу – адказнага сакратара часопіса "Мастацтва" сп.Барысевіча. Адмовіць яму ў слове суд не адважыўся. У сваім выступе мастацкі экспэрт патлумачыў суду і прысутным, што нельга прызнаць за "абразу канкрэтнага чалавека" тую моладзевую перадвыбарчую акцыю ў вёсцы Гарадзец, якая адбылася ў мінулым жніўні. Тады на твары аднаго зь яе ўдзельнікаў была апранутая маска, з-за падабенства якой на Лукашэнку і разгарэўся ўвесь пільны шклоўскі сырбор. Аднак з пазыцыі мастацтва – а не палітыкі! – маска застаецца ня больш, чым маскай, а словы (нібыта абразьлівыя), што былі ёй адрасаваныя, кожны можа адносіць (у меру свайго мастацкага разьвіцьця) як да таго "прататыпу", якога маска яму нагадвае, так і да чалавека, на якога яна надзетая. Давесьці рацыю аднаго меркаваньня перад іншым немагчыма. Ва ўнівэрсытэце культуры, як падкрэсьліў экспэрт, існуе факультэт пэрфомансу – мастацкай дзеі з выкарыстаньнем шмат якіх, на першы погляд зусім немастацкіх, рэчаў і прыладаў. Гэты жанр вельмі характэрны для народных беларускіх традыцыяў, якія ўходзяць сваімі каранямі ў далёкае мінулае і цяпер адраджаюцца нанова...

Адвакат сп.Сапелка заявіў хадайніцтва аб выкліку ў суд для апытаньня самога "пацярпелага". Судзьдзя Халадцова адразу абвесьціла амаль 2-гадзінны перапынак.

Тым часам у журналістаў, што асьвятляюць працэс, зьявілася магчымасьць агледзець ваколіцы. Непадалёк ад будынку суда сустрэлася некалькі брытагаловых хлопцаў. Па словах нашых шклоўскіх знаёмых, гэта былі сябры мясцовага аддзелу экстрэмісцкай арганізацыі РНЕ (дарэчы, летась забароненай, па меншай меры, у расейскай сталіцы). Прыкмецілі мы й тое, што на слупах з дня апошняга наведаньня места зьявіліся новыя ўлёткі гэтай арганізацыі.

Суд аднавіўся а 15-ай гадзіне. Судзьдзя адхіліла хадатайніцтва аб выкліку "пацярпелага". Пачаліся заключныя выступы бакоў. Сп.Алданава прасіла суд пакараць кожнага з хлопцаў штрафам у памеры па 200 мінімальных заробкаў. Пракурорша не зрабіла ніякіх папраўак на рознасьць прэтэнзіяў да кожнага з падсудных, іхны розны ўзрост і рознае матэрыяльнае становішча. Адвакату ў сваім выступе давялося зьвярнуць увагу суда на гэтую акалічнасьць, нагадаўшы пра тое, што непаўнагадовым (двое зь ліку падсудных) ***па законе*** ня можна прысудзіць штраф большы за 20 мінімалак. Сп.Сапелка адзначыў таксама іншыя акалічнасьці справы і судовых паседжаньняў, якія трэба залічыць на карысьць падсудных.

Падсудныя і прысутныя яшчэ дзьве з паловай гадзіны чакалі абвешчаньня выроку. Урэшце суд пастанавіў: прызнаць усіх хлопцаў вінаватымі ў злачынстве, прадугледжаным арт. 368 ч.1 КК РБ і вызначыць пакараньне – А.Паўловічу і М.Патупчыку як непаўнагадовым – штраф у памеры па 20 мінімальных заробкаў, М.Кісялёву, Д.Сенакосаву і Зьм.Шалашкову – штраф па 100 мінімальных заробкаў. З пакараных узятая падпіска аб нявыезьдзе да часу пагашэньня штрафаў.

Адвакат сп.Сапелка паведаміў журналістам, што пасьля абмеркаваньня сытуацыі з сваімі падабароннымі ён мае намер абскардзіць прысуд у вышэйстаячай інстанцыі.

***Дзяніс НОВІКАЎ***



## Свой погляд на тыдзень воблсаьці

**У Магілёве на інфэкцыйнае захворваньне кішэчніка захварэлі каля 300 дзетак. Перапоўненыя ўсе аддзяленьні мясцовых шпіталяў. Мэдыкі адназначна сьцьвярджаюць што гутарка ідзе пра ротавірусную інфэкцыю. Яна перадаецца праз пабытовыя кантакты, з харчаваннем і вадой, а таксама вельмі ўстойлівая да антыбіётыкаў і асабліва лёгка распаўсюджваецца сярод дзяцей да 6-ці год. Пакуль спэцыялісты больш глыбока вывучаюць сытуацыю, многія ўжо зрабілі адну выснову: прычына палягае ў нізкай санітарнай культуры. Ад сябе з сумам дадам, што такая "культура" звычайна спадарожнічае беднасьці і крызысу ў грамадзтве.**

Нядаўна ў Чавусах была зьнішчаная партыя замежных мэдыкамэнтаў на суму ў 18 мільёнаў беларускіх рублёў. Пазбавіліся ад лекаў таму, што яны былі на месяц пратэрмінаваныя. Ня ёсьць, аднак, сакрэтам, што пратэрмінаваныя па заходніх мерках мэдыкамэнты яшчэ ледзь не гадамі ратуюць нашых хворых. А тут узялі ды зьнішчылі... У зьвязку з гэтым адразу хочацца нагадаць пра адсутнасьць у краіне грамадзкага кантролю за разьмеркаваньнем гуманітарнай дапамогі. Менавіта "свавольства" дзяржавы ў гэтым пытаньні стварае глебу для разнастайных негатыўных зьяваў, на тле якіх зьнішчэньне партыі чавускіх лекаў – зусім ня горшы прыклад.

**Старшыня Бабруйскага райвыканкаму Міхаіл Левакоў днямі быў абраны... старшынём калгасу "Гігант". Цікавае спалучэньне пасадаў можа нават выглядаць лягічным (сп.Левакоў кіраваў гаспадаркай да свайго прызначэньня ў выканкам). Але ўсё ж тут узьнікае шэраг пытаньняў. Напрыклад, якімі інтарэсамі будзе кіравацца М.Левакоў, прымаючы рашэньні аб выдаткаваньні дзяржаўных сродкаў? У якасьці каго: калгаснага ці раённага старшыні ён будзе правяраць працу ты ці іншых структураў, у тым ліку падначаленай яму гаспадаркі?.. Пытаньні можна было б падоўжыць, але спынюся на ўжо сказаным. А падсумаваць можна так: чаго б не выдумлялі, якіх бы "наваўводаў" не прыдумвалі ўлады, але вёска нашая ўсё гібее. Вось такая нецікавая лёгіка.**

Больш паловы проб драўніны, узятых у Чэрыкаўскім раёне, "сьвецяцца" – утрымваюць падвышаны ўзровень радыяцыі. Увага: на пробы бралася драўніна, якую мясцовыя жыхары выкарыстоўваюць для ацяпленьня. Пасьля спаленьня дроваў яны, дарэчы, раскідваюць залу па сваіх жа гародах. Таму й ня ёсьць выпадковым, што спэцыялісты фіксуюць шматлікія выпадкі забруджанасьці малака, мяса і гародніны ў хатніх гаспадарках. Адначасна канстатуецца рэзкае скарачэньне колькасьці тых, хто згаджаецца здаваць на аналізы сваю прадукцыю. І вядома, чаму: бо людзі хочуць яе прадаць, бо грошай у сваіх калгасах-саўгасах ня маюць. Пры тым дзяржава канчаткова забылася пра гэтых людзей ды іхныя беды. Узгадваюць пра "чарнобыльцаў" толькі мэдыкі ў нашых шпіталях.

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Нічым не скалануць

***Бабруйскія чыноўнікі не дазволілі ўсталяваць на помніку палітычным вязьням памятную дошку з надпісам "Ахвярам палітычных рэпрэсіяў 1920-х – 1980-х гадоў".***

Гэтую мэмарыяльную дошку замовіла бабруйская філія Асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Але мясцовыя ўлады мяркуюць, што на дошцы трэба напісаць замест слова "палітычных" слова "неабгрунтаваных", а таксама зьмяніць дату: спыніцца на 1950-х гадах.

Гарадзкое начальства ўвогуле выказала сумнеў у тым, што нейкія рэпрэсіі, а тым больш палітычныя, працягваліся ў СССР пасьля сьмерці Сталіна. Чыноўнікаў з гарвыканкаму не пераканаў нават "мясцовы" факт: бабруйскі рабочы, вядомы савецкі дысыдэнт Міхаіл Кукабака, які быў асуджаны за "антысавецкую агітацыю", вызваліўся зь лягеру, дзе правёў 17 гадоў, толькі ў 1988г.

На сёньня ў Бабруйскім раёне вядомыя тры месцы масавых расстрэлаў людзей. На адным зь іх цяпер – шынны камбінат, на другім, у вёсцы Цітаўка – вайсковы палігон. Яшчэ ў адным месцы, непадалёк ад габрэйскіх могілак, таксама былі знойдзеныя некалькі прастрэленых чалавечых чарапоў.

Праўда пра сталінскі генацыд у Бабруйску сталася вядомай грамадзтву дзякуючы намаганьням сябраў мясцовай Асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Але ўвесь час іхныя ініцыятывы сутыкаюцца з супрацівам улады. Старшыні асацыяцыі Ганне Бокач даводзілася неаднойчы абвяшчаць галадоўкі пратэсту, бо толькі гэтая крайняя мера іншым разам аказвае хоць нейкі ўплыў на ўладу. Бо звычайна яна ня слухае ніякіх довадаў і доказаў, што ставяць пад сумнеў бездакорнасьць афіцыйнай дзяржаўнай ідэалёгіі.

*Алесь СЕРДЗЮКОЎ*

## Дэманстрацыя – альбо вытрымкі, альбо разгубленасьці

***Амбасада ЗША ў Беларусі распаўсюдзіла тую частку штогадовай справаздачы свайго ўраду аб захаваньні правоў чалавека, якая тычыцца нашай краіны.***

У ёй нагадваецца, што лістападаўскі рэфэрэндум 1996г. большая частка міжнароднай супольнасьці не прызнала. Тое ж напаткала й выбары, якія праводзіў рэжым: у кастрычніку 2000г. – парлямэнцкія і ў верасьні 2001г. – прэзыдэнцкія. Адпаведна гэтыя органы ня маюць у вачах сусьветнай дэмакратычнай супольнасьці неабходнай легітымнасьці. Гаворыцца ў справаздаче таксама й пра тое, чаму так адбылося: пералічваюцца тыя асноўныя парушэньні заканадаўства й агульна прынятых нормаў, якія масава парушаў рэжым цягам апошніх шасьці год. Паміж іншым, сказана й аб тым, што "па загадах Лукашэнкі прэзыдэнцкая ахова, першапачаткова створаная дзеля абароны вышэйшых афіцыйных асобаў, працягвала дзейнічаць супраць палітычных апанэнтаў рэжыму без аніякага судовага альбо заканадаўчага кантролю". У справаздачы названыя прозьвішчы палітыкаў, што згінулі альбо знаходзяцца за кратамі. Адзначаюцца і нядаўнія рэпрэсіі супраць кіраўнікоў прамысловасьці, прафсаюзаў і журналістаў.

Як вядома, беларускі бок адрэагаваў такім чынам, што ён пакуль зьбірае меркаваньні пра амэрыканскі даклад з сваіх міністэрстваў, ведамстваў і амбасадаў. Толькі пасьля абагульненьня атрыманых меркаваньняў, на што спатрэбіцца, відаць, шмат часу, будзе агучаны адказ афіцыйнага Менску на крытыку і непрыемныя для яго ацэнкі.

*Паводле інф. агенцыяў*

## А як быць з намі, пэўнасьці няма...

***Міністар замежных справаў Польшчы Володзімеж Цімашэвіч зьвярнуўся да Сэйму з традыцыйным штогадовым зваротам "Аб найважнейшых кірунках зьнешняй палітыкі Польшчы ў 2002 годзе".***

Гаворачы пра адносіны з усходнімі суседзямі, міністар шмат увагі надаў кантактам з Расеяй і Украінай. Паводле сп.Цімашэвіча, Варшава будзе спрыяць паляпшэньню адносінаў Масквы з NATO й падтрымліваць заходнюю арыентацыю Кіева.

Пра дачыненьні з нашай краінай кіраўнік польскай дыпляматыі выказаўся наступным чынам: "На стасункі зь Беларусьсю ўплывае найперш унутраная сытуацыя ў гэтай краіне, наступствамі якой ёсьць міжнародная самаізаляцыя Беларусі... Нам трэба будзе ацаніць прынцыпы й вынікі гэтай палітыкі, асабліва што тычыцца грамадзкага, культурнага, памежнага і гаспадарчага супрацоўніцтва. У гэтай справе мы будзем праводзіць больш шырокія кансультацыі з ЭўраЗьвязам й іншымі заходнімі партнэрамі".

У часе дэбатаў В.Цімашэвіч быў скрытыкаваны дэпутатамі за сваю апошнюю сустрэчу з М.Хвастовым у Беластоку, нягледзячы на тое, што ён шматкроць заяўляў аб яе неафіцыйным, выключна "прыватна-гасьцінным" характары.

*Аляксей ДЗІКАВІЦКІ*

## ШТО НА ТЫДНІ... У ГОРКАХ



***У хуткім часе ў мэтах эканоміі бюджэтных сродкаў плянуецца зачыніць філіял раённай паліклінікі, што разьмешчаны ў БДСГА.***

Цяпер паліклініка абслугоўвае больш за дзесяць тысяч дарослых і звыш тысячы дзяцей. Але, на думку галоўнага доктара ўстановы А.Васяновіч, другой крыніцы эканоміі бюджэтных сродкаў у горадзе няма. У лютым горацкім паліклінікам выдзелілі 147 мільёнаў рублёў, 110 зь якіх пайшло на выплату заробкаў. Аптэчны склад больш не выдае мэдыкамэнты і расходныя матэрыялы ў крэдыт, а на харчаваньне хворых грошай у гэтым месяцы не было.

Увогуле, праблема мэдычнага абслугоўваньня вельмі хвалюе мясцовае насельніцтва. Людзі падлічылі, што за адзін месяц стацыянарнага лячэньня цяпер трэба выкласьці з кішэні больш за 200 тыс. рублёў – удвая больш за сярэднемесяцовы горацкі заробак.

*Натальля КІРЫЕНКАВА*

### ПРЫСУД ...

## Вырок прагучаў...

***14-га сакавіка судовая калегія Менскага абласнога суду пад старшыняваньнем судзьдзі Аляксандра Сіманава абвесьціла прысуд у дачыненьні да Валерыя Ігнатовіча й Максіма Маліка – былых супрацоўнікаў спэцпадразьдзяленьня МУС Беларусі "Алмаз", былога курсанта Акадэміі МУС Аляксея Гуза й двойчы судзімага Сяргея Савушкіна.***

Валеры Ігнатовіч і Максім Малік прызнаныя вінаватымі ў стварэньні й кіраўніцтве бандай, у нападах, разбоі, рабаўніцтве, а таксама ў выкраданьні чалавека, незаконным пазбаўленьні волі й забойстве, учыненым з асабліваю жорсткасьцю. Яны асуджаныя да пажыцьцёвага зьняволеньня з утрыманьнем у калёніі асобага рэжыму й да канфіскацыі маёмасьці.

Аляксей Гуз прызнаны вінаватым ва ўдзеле ў бандзе і ўчыненых ёю нападах, у разбоі, незаконным набыцьці й нашэньні выбуховай прылады, а таксама ў забойстве. Ён асуджаны да 25-ці гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму й да канфіскацыі маёмасьці. Сяргей Савушкін прызнаны вінаватым у замаху на рабунак, злучаны з гвалтам, небясьпечным для жыцьця. Ён асуджаны на 12 гадоў пазбаўленьня волі з адбываньнем у калёніі строгага рэжыму й да канфіскацыі маёмасьці.

Ніхто з асуджаных віны не прызнаў.

Як вядома, вялікая цікавасьць журналістаў і ўсяго грамадства да гэтай крымінальнай справы была выкліканая менавіта тым, што бандзе Ігнатовіча інкрымінавалася выкраданьне тэлеапэратара ОРТ Зьміцера Завадзкага.

*Паводле радыё "Свабода"*

### ... І ПАСЛЯСЛОЎЕ

## А пытаньні засталіся

Прысуд злачыннай групе В.Ігнатовіча, вынесены днямі Менскім абласным судом, так і ня даў адказу на галоўнае пытаньне: што здарылася 7-га ліпеня 2000г. з нашым калегам, сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў Зьміцерам Завадзкім. Дзе ён, што зь ім?..

Выкраданьне журналіста групай Ігнатовіча фактычна засталося не даказаным ні падчас папярэдняга сьледства, ні ў працэсе судовага разбіральніцтва.

Судовае паседжаньне адбывалася за зачыненымі дзьвярыма, што не дазволіла ўдзельнічаць альбо прысутнічаць на ім прадстаўнікам БАЖ ды іншых грамадзкіх арганізацыяў. Гэта сталася, як аб тым улада была папярэджаная, адной з падставаў, якія выклікаюць сумнеў у аб'ектыўнасьці і ўсебаковасьці суду.

... БАЖ пакідае за сабой права патрабаваць ад Пракуратуры РБ прыняцьця рашэньня аб выдзяленьні "эпізоду выкраданьня Завадзкага" е асобную справу з мэтай правядзеньня дадатковага ўсебаковага і аб'ектыўнага расьсьледаваньня.

*Паводле Заявы Праўленьня ГА "БАЖ"*



ПАЛЫКАВІЦКАЯ КРЫНІЦА: СТАН І ПРАБЛЕМЫ

# Мы ўсе і ёсьць адказнымі

***Палыкавіцкая крыніца, вада зь якой добра вядомая магілёўцам, патрабуе больш пільнага і настойлівага дагляду – гэтую думку даносілі ўдзельнікі рабочай сустрэчы, што адбылася ў залі гарвыканкаму.***

Прадстаўнікі дзяржаўных экалягічных службаў і актывісты грамадзкіх ініцыятываў разам з журналістамі паспрабавалі за кольным сталом ацаніць сёньняшні стан помніка магілёўскай прыроды. Варта адзначыць, што падобны сход, дзе прадстаўнікі грамадзкасьці і дзяржавы амаль на роўных абмяркоўвалі актуальныя пытаньні гарадзкога жыцьця, адбыўся ўпершыню.

Як паказала гаворка, пытаньняў пакуль куды больш, чым адказаў. Як паведаміў вядучы сустрэчы, начальнік магілёўскай раённай інспэкцыі аховы прыроды А.Кузьняцоў, зараз патрабуецца сур'ёзная экалягічная экспэртыза. А на гэта, зразумела, патрабуюцца сродкі, якіх не стае. Цягам гаворкі было зазначана, што каля крыніцы ёсьць труба, якая належыць гарадзкому водаканалу. Дык вось зь яе раз-пораз ажыцьцяўляюцца аварыйныя выкіды вады. Ці адбіваецца гэта дрэнна на стан крыніцы? Гэтае пытаньне засталося без адказу. Як, зрэшты, і шэраг іншых пытаньняў. Напрыклад: як уплываюць на якасьць крынічнай вады прысутныя побач царква, купальня, труба, роў? І ці аказваюць яны ўвогуле нейкі ўплыў на крыніцу? Здаецца, на гэтыя пытаньні пакуль ніхто й не спрабаваў знайсьці адказу, акрамя актывістаў грамадзкага экалягічнага руху...

Дарэчы, сама сустрэча была ініцыяваная менавіта прадстаўнікамі трэцяга сэктару. На этапе падрыхтоўкі да яе, на просьбу ГА "Лекарскі саюз" экалягічныя службы правялі лябараторныя дасьледаваньні крынічнай вады. Яны паказалі, што вада сапраўды чысьцюткая, без бактэрыяў.

Сябры ініцыятыўнай групы па стварэньні ў Магілёве экалягічнага аб'яднаньня "ЭНДА" сабралі ўжо некалькі соцень подпісаў пад заклікам прадпрыняць захады па зьберажэньні Палыкавіцкай крыніцы. Грамадзкія эколягі цягам сустрэчы прапанавалі надаць прыроднаму помніку статус ландшафтнага заказьніка, а таксама добраўпарадкаваць яго тэрыторыю й правесьці адпаведную растлумачальную кампанію сярод насельніцтва.

Дык хто будзе ўсё гэта рабіць? Я лічу, што адказныя тут мы ўсе. Бо меў рацыю начальнік гарадзкой інспэкцыі аховы прыроды Анатоль Раманаў, які наракаў, што людзі самі часьцяком дрэнна абыходзяцца з крыніцай. Але праўду казаў і грамадзкі эколяг, выкладчык геаграфіі Юры Жураў, які лічыць немагчымым для дзяржавы самаўхіляцца ад ратаваньня ўнікальнага помніку. Магчыма, што ў разуменьні нашай агульнай адказнасьці і быў галоўны сэнс сустрэчы.

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***
*Фота аўтара*



# Каб не загас агмень нацыянальны

***У абласным цэнтры прайшоў устаноўчы сход моладзевага культурна-асьветніцкага аб'яднаньня з прывабнай назвай "Агмень". Сход прыняў Статут, абраў раду, рэвізійную камісію й старшыню (ім, дарэчы, стаў наш карэспандэнт Дзяніс Новікаў).***

Згодна статуту, асноўнай мэтай аб'яднаньня будзе "садзейнічаньне вывучэньню, захаваньню і папулярызацыі сярод моладзі беларускай нацыянальнай культуры, гісторыі і краязнаўчай дзейнасьці як фактараў нацыянальнага Адраджэньня Беларусі і пабудовы дэмакратычнага грамадзтва".

Агменяўцы (па-расейску агмень – гэта *очаг* – "ТМ") будуць арганізоўваць культурна-асьветніцкія імпрэзы, зьбіраць і вырабляць (бяз мэты продажу) прадметы старажытнага народнага побыту, садзейнічаць наладжваньню фальклёрных сьвятаў, ствараць базу дадзеных па традыцыйнай культуры і краязнаўству Магілёўшчыны.

У канцы сакавіка новая грамадзкая суполка падасьць неабходныя дакумэнты на афіцыйную рэгістрацыю.

***Кацярына ІВАНОВА***

# Месцы – першыя, але ў розных паказчыках

***Для бальшыні замежнікаў ёсьць шокам тое, што ў чэскай кавярні гарбата, не гаворачы пра каву, даражэйшая за піва.***

Звычайна невялікая група студэнтаў за дзьве гадзіны ў кавярні плоціць прыблізна 80 крон. Гэта калі маладыя людзі п'юць піва. А вось калі б яны спажывалі там гарбату, кока-колу, мінэральную ваду ці сок, то за тыя ж дзьве гадзіны заплацілі б ня менш за 160 крон...

Чэскія піввары кажуць, што кошты абумоўленыя спрыяльнымі эканамічнымі ўмовамі. Гэта праўда, бо малыя бровары маюць падатковыя льготы. Аднак, падаецца, што на агульны выраб піва ў краіне (18 мільёнаў гекалітраў) яны ўсё ж уплываюць слаба. Тым ня менш супольнымі намаганьнямі буйных і малых бровараў тутэйшае спажываньне піва (160 літраў на асобу ў год) дасягнула ўжо сваёй фізычнай мяжы: расьці далей няма куды.

Пры камуністах існавала прыслоўе, што ўрад, які падвысіць кошты на піва – адыйдзе ў адстаўку. Дарэчы, тое сапраўды адбылося з урадам Антаніна Навотнага. Але сёньня кошты не падвышаюцца па іншай прычыне: рынак забясьпечыў прапанову, якая ўстойліва перавышае попыт. Шмат што вырашае й традыцыя.

Словам, Чэхія зараз трымае першае месца ў сьвеце па спажываньні піва й па ягоным танным кошце ў параўнаньні зь іншым прадуктамі і напоямі.

***Паводле Беларускага інфармацыйнага цэнтру ў Празе***

**P.S.** Да матэрыялу дадаем здымак, што адлюстроўвае манэру спажываньня піва ў нас. Магчыма, што нам у пітной тэме таксама належыць першае месца ў сьвеце, але хутчэй за ўсё гаворка можа ісьці толькі пра такі паказчык як безкультур'е.



Фота IREX

# Зь любімай настаўніцы пачынаецца...

***Музычная грамадзкасьць Магілёўшчыны адзначае юбілей Зоі Паўлаўны Пятровай. Больш за 20 гадоў таму яна, таленавітая выпускніца Беларускай дзяржаўнай філярмоніі, выбрала месцам працы наш Магілёў.***

За гэта ёй найперш удзячныя шматлікія былыя і сёньняшнія студэнты музычнай вучэльні, якіх Зоя Паўлаўна на ўсё жыцьцё злучыла з музыкай. Яна шмат гадоў узначальвае так званы "канцэрт-майстарскі кляс". Тут студэнты засвойваюць першыя навыкі канцэртнай дзейнасьці, тут вучацца адказнасьці за сваю творчасьць і павазе да тых, хто прыходзіць на сустрэчы з музыкай. Менавіта Зоі Паўлаўне абавязаныя студэнты за першыя апладысмэнты на свой адрас. Гэта яна заклала вучэльныя традыцыі студэнцкіх камэрных і вакальных канцэртаў, тэматычных канцэртаў, выяздных канцэртаў. І гэта пры тым, што шмат часу і сілаў ад выкладчыцы патрабуе ейны непасрэдны музычны кляс – спэцыяльнае фартапіяна. Але яе хапае на ўсё.

Той, хто наведвае музычныя вечары ў музэі Бялыніцкага- Бірулі, мусіць ведаць, што абавязаны нараджэньню гэтых кранальных канцэртаў таксама нашай Зоі Паўлаўне.

Калі яе студэнты здаюць іспыты, хвалюецца й яна, нават ці ня больш за іх. Калі ў студэнта ня ўсё складваецца ў вучобе ці жыцьці, ён ведае, да каго трэба зьвяртацца па дапамогу. Адданасьць Зоі Паўлаўны музыцы і нам, студэнтам, ня можа не ўражваць і ня быць прыкладам для тых, хто выбярэ пасьля вучобы шлях музычнага пэдагога. Як гэта трэба рабіць у сьвеце музыкі – выхоўваць праз яе чалавека – штодня паказвае нам Зоя Паўлаўна Пятрова.

Зь юбілеем Вас, наша дарагая настаўніца!

***Алена ПАДДУБСКАЯ, студэнтка Магілёўскай музычнай вучэльні***

**Ад рэдакцыі.** Гэтая нататка Алены – ня першая ў нашай газэце. Раней ейныя допісы мы перакладалі з расейскай. Адметна, што гэтым разам Алена даслала расповед пра сваю настаўніцу на роднай мове. Аказалася, што яна, як і большасьць з нас, добра ведае па-беларуску. Як бачым, дастаткова не такога ўжо й вялікага намаганьня, каб адчуць сябе годным чалавекам, што паважае мову таго Краю, у якім жыве...

# А тут ужо камунізм

***Паколькі практычна ўсе гаспадаркі раёну ня маюць сродкаў, каб разлічыцца па заробках, ведамасьці з налічанай памесяцова зарплатай перадаюцца ў вызначаныя крамы, дзе сяляне "атаварываюцца".***

Гэткі новаўвод, трэба зазначыць, абсалютна невыгодны вяскоўцам. Бо на мясцовым рынку (дзе, дарэчы, нашмат больш тавараў, чым у дзяржаўных крамах) той жа тавар можна купіць значна дзешавей. Таксама застаецца незразумелым, як калгасьнікі будуць разьлічвацца за праезд у аўтобусе ці камунальныя паслугі, а зь нядаўняга часу – і за лячэньне ў паліклініцы. Затое цешацца вясковыя аматары сьпіртнога: раней ім даводзілася ледзь не на каленах прасіць у прадавачкі пляшку віна "у доўг". Цяпер жа – па ведамасьці – бяры хоць на ўсю зарплату.

У занепакоі толькі кіраўніцтва мясцовага райпа, бо імкліва вымываюцца абаротныя сродкі.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 12. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 21.03.2002 г. а 17.05

# Толькі гэтага і не стае...

***У Беларусі імкліва старэе абсталяваньне на прадпрыемствах зь небясьпечным тэхналягічным цыклем. Пра гэта заяўляюць спэцыялісты з "Праматамнагляду" – спэцыяльнага падразьдзяленьня ў структуры Міністэрства надзвычайных сытуацыяў.***

Калі гэткае становішча ня будзе выпраўленае блізкім часам, справа можа дайсьці да масавых тэхнагенных аварыяў. Аб гэтым у часе адмысловай прэсавай канфэрэнцыі паведаміў кіраўнік дэпартамэнту Іван Клімчынскі. Увогуле, праблема бясьпекі прадпрыемстваў, якія скарыстоўваюць выбуховыя альбо хімічныя рэчывы, павінна была б выклікаць ва ўраду большую ўвагу, чым гэта ёсьць сёньня. Тым больш, што падобных прадпрыемстваў у нас (спадчына ад СССР) засталося некалькі сотцень.

Выклікаюць трывогу й "мірныя" прадпрыемствы. Напрыклад, практычна поўнасьцю выпрацавала нарматыўны рэсурс абсталяваньне "Беларуськалія". Кацельныя ў палове гарадоў таксама працуюць на мяжы трываласьці з-за састарэлага абсталяваньня, якое даўно патрабуе замены альбо капітальнага рамонту. Аварыя тут можа прывесьці да адключэньня падачы энэргіі, што ў сваю чаргу выкліча ланцуг іншых аварыяў. Асаблівая небясьпека сыходзіць, зразумела, ад хімічных прадпрыемстваў. На магілёўскім "Хімвалакно", напрыклад, шырока скарыстоўваюцца такія атрутныя рэчывы, як мэтанол і параксынол. Дагэтуль неяк удавалася апэратыўна лякалізоўваць аварыіі. Цяпер такой гарантыі ніхто даць ня можа...



Яшчэ адзін небясьпечны аб'ект – чыгунка. Штодзень па тэрыторыі краіны перамяшчаюцца каля 1600 вагонаў і цыстэрнаў з шкоднымі рэчывамі. Але краіны-адправіцелі, а гэта ў асноўным Расея і Украіна, не даюць гарантыяў бясьпекі. Беларускі бок плянуе на межах краіны абсталяваць адмысловыя месцы для правядзеньня тэхагляду усіх замежных вагонаў. Аднак гэта пакуль толькі намер.

Трывожнай застаецца і постчарнобыльская сытуацыя. Аднак намесьнік кіраўніка Дэпартамэнту сп.Кухто спрабаваў запэўніць журналістаў, што асаблівай небясьпекі радыёактыўныя могілкі (іх у краіне 77) не ўяўляюць. Аднак, як вядома, незалежныя эколягі мяркуюць зусім іначай. Яны дакумэнтальна сьведчаць, што на Магілёўшчыне, напрыклад, радыёмогільнікі месьцяцца ў вельмі небясьпечнай блізкасьці да населеных пунктаў. Радыёнукліды лёгка рухаюцца, бо захоўваюцца ў верхніх пластах глебы. Да таго ж, як прызнаў днямі старшыня Камітэту па чарнобыльскім праблемам пры Савеце міністраў РБ Уладзімер Цалко, ніводная дзяржаўная праграма, скіраваная на пераадоленьне наступстваў аварыі, ніколі не была выкананая. Паводле ягоных словаў, у бягучым годзе на гэтыя мэты патрабуецца 265 мільярдаў рублёў, а будзе выдаткавана – гэта ўжо вядома – толькі 175 мільярдаў.

***Паводле інф. агенцыяў***

## КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ



Фота Г.Судніка

# Шмат у краіне падобных мясьцінаў

***Раніцай у Курапатах я засьпела дзевяцігадовага Аляксея. Перад заняткамі ў школе (а ён вучыцца ў другую зьмену) хлопчык наведаў лягер валанцёраў.***

У нас адбылася такая гаворка.

– А што ты ведаеш пра гэтае месца?

– Што тут загінулі нашыя продкі.

– Хто табе распавёў пра Курапаты?

– Мае бацькі.

– Як ты ставісься да таго, што тут ідзе вахта памяці?

– Трэба памінаць продкаў. Я таксама дапамагаў тут – крыжы рабіў, ваду насіў...

Аляксей запытаўся ў валанцёраў, ці пойдзе хто зь іх на сёньняшнюю менскую акцыю *(гаворка адбывалася 15-га сакавіка – "ТМ")* з нагоды Дня Канстытуцыі, бо таксама хацеў пайсьці з кім-небудзь з дарослых. Але абаронцы Курапатаў вырашылі заставацца ў лягеры. Вось што патлумачыў адзін з кіраўнікоў валанцёрскага штабу Алесь Гетман: "У Беларусі Канстытуцыя ніколі не выконвалася. Калі ў судзе пачынаеш размаўляць па-беларуску, табе прапануюць перайсьці на расейскую мову. Але ж у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі запісана, што ў нас дзьве дзяржаўныя мовы. Які можа быць Дзень Канстытуцыі, калі яна не выконваецца?"...

Валанцёры падтрымалі прапанову археолягаў Інстытуту гісторыі АН распачаць дасьледаваньне іншых месцаў масавых расстрэлаў і пахаваньняў. Актывіст абароны Дзяніс упэўнены, што моладзь магла б пэўным чынам дапамагчы навукоўцам, прыкладам, у ахове месцаў раскопак: "Трэба давесьці да людзей, што такіх месцаў, дзе НКВД расстрэльваў людзей, было шмат, ня ўсіх везьлі з усёй Беларусі ў Курапаты. Я заклікаю беларускую моладзь бараніць такія месцы ў сваіх рэгіёнах. Няма сумневу, што ўлада будзе іх не прызнаваць, а тое й нішчыць. Такія спробы былі, напрыклад, у Лошыцы. Я знаёмы з чалавекам, які жыве ў Лошыцы. І ён мне шмат распавядаў, як спрабавалі ўвогуле зьнесьці Лошыцу й пабудаваць на тым месцы дамы, каб і сьлядоў не засталося...".

Дарэчы, Дзяніса выключылі з Белдзяржунівэрсытэту за ўдзел у апазыцыйных акцыях. Цяпер ён часова працуе на рынку й вучыцца на курсах газазваршчыкаў. Некалькі дзён таму Дзяніс зрабіў адмысловую мэталічную ручку з надпісам на ёй – "БПС" *(Беларуская партыя Свабоды – "ТМ")*.

Таксама абаронцы паказалі ліст ад Зянона Пазьняка, які атрымалі днямі. Алесь Гетман ад імя ўсіх валанцёраў выказаў падзяку і павагу Зянону Пазьняку. Ён сказаў, што "мы ўсе добра ведаем, што менавіта Зянон Пазьняк ёсьць першаадкрывальнікам Курапатаў. Атрымліваецца такім чынам, што сёньня мы працягваем ягоную варту. Мы паабяцалі спадару Зянону, што не дазволім тут нічога пабудаваць, не дазволім схаваць праўду пад пластом абыякавай зямлі".

***Ганна СОУСЬ***

# У тупік ...

**Самая гарачая навіна гэтых дзён на Дрыбіншчыне – атрыманьне старшынём райвыканкаму ў службовае карыстаньне новенькага "Мэрсэдэса".**

Такое ўражаньне, што каб ён адзіны ў вобласьці атрымаў такую машыну – то пасаромеўся б у яе садзіцца. Ня тое, што дзе-небудзь у краме ці на вуліцы, а нават і ў калідорах выканкаму людзі адкрыта называюць шырокі лукашэнкаўскі жэст "пірам у часе чумы"...

Тым часам кошту такой машыны (у райвыканкаме яшчэ ёсьць "Аўдзі" і новенькі ВЕЗДЕХОД) хапіла б на пакрыцьцё запазычанасьці раёна ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Столькі ж грошай не стае цяпер на дзіцячае харчаваньне ў навучальных установах і ў бедных сем'ях. Раён пакуль ня здолеў пагасіць запазычанасьць па аплаце працы як у вёсцы, так і ў горадзе. Пачаліся, пакуль эпізадычныя, затрымкі ў своечасовых выплатах пэнсіяў. Пра раённую пазыку энэргетыкам ніхто ўжо і ня ўзгадвае, бо няма як аддаць.

Людзі гадаюць, чым жа так вызначылася раённае начальства перад Лукашэнкам, які (за народны, зразумела, кошт) так шчодра і шыкоўна аддзячыў "вэртыкальшчыкаў". Асноўная маса схіляецца ў той бок, што гэта ёсьць своеасаблівая ўдзячнасьць за *"элегантную победу"* і адначасова "кругавая павязка", як гэта бывае перад неўмінучым тупіком. Як схаваць перад ім страх адказнасьці, як суцішыць сумленьне?.. Адзін рэцэпт – гуляй!

***Мірон СЯРГЕЕЎ***

# Сьвятло і цень

**28 новых "Мэрсэдэсаў", на якія перасядае абласная і раённая адміністрацыя вобласьці, па-асобаму высьвятляюць некаторыя факты звычайнага жыцьця звычайных грамадзянаў цягам некалькіх апошніх дзён.**

Напрыклад, ад маці 2-гадовага дзіця, якому спатрэбілася зрабіць УЗІ-дасьледаваньне, у лякарні абласнога цэнтру запатрабавалі 12 тыс. рублёў. Гэтымі ж днямі гарадзкіх пэнсіянэраў папярэдзілі аб затрымцы ў выплаце пэнсіяў як меней на тыдзень. У абласной лякарні на харчаваньне пацыентаў ужо выдаткавана тры чвэрці сумы, выдзеленай на ўвесь год.

***Паводле ўласных крыніцаў***

# Не абыйсьціся без замежнага ўціску

***Гомельскае абласное грамадзкае аб'яднаньне "Грамадзянскія ініцыятывы" накіравала заявы пратэсту старшыні Чыгуначнага суду Гомеля, Міністэрству юстыцыі й пракурору вобласьці.***

Нагодай паслужыла рашэньне судзьдзі Ганны Новік пра дадатковую канфіскацыю аргтэхнікі. Сп-ня Новік яшчэ паўтары месяцы таму на падставе ліста з управы КГБ і дэкрэту Лукашэнкі №8 пастанавіла сканфіскаваць кампутарную тэхніку ў "Грамадзянскіх ініцыятываў", якая нібыта "выкарыстоўвалася для арганізацыі незалежнага назіраньня на прэзыдэнцкіх выбарах". Тады ж быў аштрафаваны на 1 мільён рублёў кіраўнік гэтай грамадзкай арганізацыі Віктар Карніенка.

Паводле пастановы судзьдзі, належала бязплатна аддаць дзяржаве 5 сыстэмных кампутарных блёкаў, 5 клявіятураў і 5 маніпулятараў. Але праз два тыдні пасьля таго, як пастанова набыла законную сілу, на адрас Віктара Карніенкі прыйшла новая пастанова суду, згодна зь якой канфіскацыі падлягалі дадаткова яшчэ 5 манітораў. Па ўсяму тэксту пастановы былі раскіданыя шматлікія праўкі і дапіскі судзьдзі Новік. Між тым, паводле заканадаўства, любыя (нават самыя нязначныя) праўкі ў судовыя пастановы могуць уносіцца ***толькі*** на падставе адмысловага паседжаньня з запрашэньнем зацікаўленых бакоў і вынясеньнем новага рашэньня. Таму юрыст "Грамадзянскіх Ініцыятываў" лічыць, што судзьдзя павінна быць прыцягнутая да адказнасьці за падлог дакумэнтаў. У блізкім часе стане вядома, ці магчымае такое разьвіцьцё падзеяў.

***Казімер ЯНОЎСКІ***

**P.S.** Тым часам пацярпела яшчэ адна вядомая ў краіне грамадзкая суполка – Берасьцейскае грамадзкае аб'яднаньне "Вежа". Мясцовы суд вынес рашэньне аб закрыцьці арганізацыі на падставе фармальных парушэньняў з боку ГА "Вежа", якія, як гэта аднадушна адзначаюць усе назіральнікі за ходай справы, зусім не адэкватныя жорсткаму прысуду. У абарону берасьцейскіх калегаў выступілі роднасныя ёй арганізацыі з Магілёву, Віцебску, Горадні, Гомеля й Менску. Яны пакінулі за сабой права інфармаваць эўрапейскую дэмакратычную супольнасьць аб неспрыяльных умовах для дзейнасьці дэмакратычных арганізацыяў у Беларусі, якія ўлада наўмысна пагаршае штогод. Таксама плянуецца выступіць з ініцыятывай міжнароднай канфэрэнцыі па абмеркаваньні гэтай праблемы з мэтаю аказаньня ўплыву на афіцыйны Менск, каб той паводзіў сябе ў адпаведнасьці зь міжнароднымі абавязацельствамі краіны.

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНІЧАХ



***Сёньня цяжка прыходзіцца бібліятэкам – раённай, школьным і, асабліва, вясковым.***

Тым больш незвычайнаю й прыемнаю была апошняя падзея ў бібліятэцы Цяхцінскай вясковай сярэдняй школы: яе фонд мастацкай літаратуры павялічыўся больш чым на 200 адзінак. Такі падарунак зрабіла школе вядомая паэтка, галоўны рэдактар менскага часопіса "Алеся" Раіса Баравікова, калі чарговым разам наведвала сваю старэнькую матулю, што жыве ў Цяхціне.

***Напрыканцы мінулага тыдня бялынічане разьвіталіся з 9-гадовай дзяўчынкай, якая памерла ад грыпу.***

Напачатку стан захворваньня дзіцяці не выклікаў трывогі й ёй было прапісанае амбулятарнае лячэньне. Але на другі дзень самаадчуваньне дзяўчынкі рэзка пагоршылася. Яе адвезьлі ў рэанімацыю абласной дзіцячай больніцы, але гэта не дапамагло: дзіця памерла праз тры дні з прычыны дэструктыўнай пнэўманіі...

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***